# Голас Радзімы

№ 10 (2048)
10 сакавіка 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Кветкі і жанчыны — паняцці непадзельныя. Можа таму ў лабараторыі інтрадукцыі і селекцыі арнаментальных раслін мінскага Батанічнага сада працуюць у асноўным прадстаўніцы слабага полу. А пазнаёміць вас з некаторымі з супрацоўніц лабараторыі мы вырашылі ў сённяшнім нумары газеты нездарма. Бо ён датуецца сакавіком, месяцам, калі ў многіх краінах святкуецца Міжнародны жаночы дзень.

НА ЗДЫМКУ: гэтыя цудоўныя ружы вырашчаны ў мінскім Батанічным садзе. Лабарант Марына БЕЛАЯ — адна з тых, хто даглядае іх.

(Матэрыял «Жамчужына нашай сталіцы» змешчаны на 3-й стар.).

Фота С. КРЫЦКАГА.

НА ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН

## СУПРАЦЬ САМАВОЛЬСТВА

На аднавіўшай у Нью-Йорку работу 42-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН выступіў выконваючы абавязкі пастаяннага прадстаўніка БССР пры ААН А. Пашкевіч. Ён падкрэсліў, што прынятае кангрэсам ЗША рашэнне аб закрыцці дзеючай у Нью-Йорку місіі пастаяннага назіральніка Арганізацыі вызвалення Палесціны (АВП) пры ААН з'яўляецца парушэннем міжнароднага права, у прыватнасці заключанага ў 1947 годзе паміж урадам ЗША і ААН пагаднення аб цэнтральных установах гэтай самай прадстаўнічай міжнароднай арганізацыі. Прадстаўнік БССР падкрэсліў, што цяперашняя акцыя самавольства адлюстроўвае праводзімую ў апошні час адміністрацыяй ЗША лінію на падрыў дзейнасці міжнароднага супольніцтва і стварэнне перашкод для дзейнасці акрэдытаваных пры ААН прадстаўніцтваў. Ён выступіў за прадастаўленне прадстаўнікам АВП магчымасці нармальна ажыццяўляць у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый свае функцыі па абароне законных і неад'емных правоў палесцінскага народа і заявіў аб падтрымцы двух праектаў рэзалюцый, якія прадстаўлены аднаўленай 42-й сесіі Генасамблеі.

СХОДЫ

## СВЯТА БРАЦКАЙ КРАІНЫ

У Мінску 25 лютага адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў грамадскасці, прысвечаны 40-й гадавіне перамогі чэхаславацкіх працоўных над рэакцыяй.

Член праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Р. Платонаў і прадстаўнік пасольства ЧССР у СССР К. Скала, якія выступілі на сходзе, падкрэслілі цесныя ідэйныя і гістарычныя сувязі пераможнага лютага 1948 года з Вялікім Кастрычнікам, адзначылі важную ролю брацкай дружбы і ўсебаковага супрацоўніцтва народаў Савецкага Саюза і Чэхаславакіі ў справе ўмацавання адзінства і згуртаванасці сацыялістычнай садружнасці.

На сходзе прысутнічалі генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда, консул генеральнага консульства ПНР у Мінску Б. Ломпесь.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## КЛОПАТ ПРА ДЗЯЦЕЙ

Устаноўчая канферэнцыя Беларускага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна адбылася 27 лютага ў Мінску, у Доме літаратара.

Дэлегатамі канферэнцыі былі выбраны больш двухсот прадстаўнікоў калектываў прадпрыемстваў і арганізацый, творчых саюзаў, міністэрстваў, ведамстваў, партыйных, савецкіх, прафсаюзных, камсамольскіх арганізацый. З дакладам аб асноўных задачах і напрамках дзейнасці Беларускага аддзялення фонду выступіла старшыня аргкамітэта, сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. Сыраегіна.

Не падмяняючы дзяржаўных намаганняў, падкрэслівалася ў дакладзе і выступленнях, фонд закліканы забяспечыць усенародны саўдзел у вырашэнні праблем выхавання юнага пакалення. У рэспубліцы ўжо тысячы людзей справай адгукнуліся на гэты заклік—на рахунак нумар 707 пералічана 570 тысяч рублёў. У Мінску адкрыўся новы корпус рэспубліканскага цэнтра па ахове здароўя маці і дзіцяці, які пабудаваны на сродкі, заробленыя працоўнымі на камуністычным суботніку.

Адбыліся выбары кіруючых органаў Беларускага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна. Старшынёй праўлення выбраны пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» У. Ліпскі.

НОВАБУДОЎЛІ



Новы універсальны магазін адкрыўся ў Навагрудку. Тут ёсць аддзелы галантарэі, гастранаміі-бакалеі, гародніны, кафетэрый, плануецца адкрыць і свой кандытарскі цэх.
НА ЗДЫМКУ: у гандлёвай зале магазіна.

КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ

## У ТЭАТРАХ МІНСКА І ЛЮБЛЯНЫ

Вядомы югаслаўскі рэжысёр Эдзі Майярон пачаў пастаноўку ў Дзяржаўным тэатры лялек БССР у Мінску спектакля па п'есе драматурга Слаўка Грума «Здарэнне ў горадзе Гога». Сумесная прэм'ера на беларускай сцэне, намечаная на другую дэкаду сакавіка,—вынік пяцігадовай дружбы мінчан з тэатрам лялек з Любляны.

Больш за пяцьдзесят спектакляў паставіў Эдзі Майярон на сцэне люблянскага тэатра лялек. Паводле слоў рэжысёра, п'еса «Здарэнне ў горадзе Гога», напісаная ў 1923 годзе, асабліва актуальная сёння для савецкіх і югаслаўскіх гледачоў. Яе галоўная думка—неабходнасць і непазбежнасць перамен у жыцці грамадства, якія, аднак, кожны чалавек павінен пачынаць з самога сябе.

Сёлета тэатры-партнёры абмяняюцца гастрольнымі паездкамі. У чэрвені беларускія гледачы ўбачаць два спектаклі югаслаўскіх калег, а восенню нашы землякі пакажуць у Любляне дзве свае лепшыя пастаноўкі.

«БелАЗ» У АМЕРЫЦЫ

## ПАДАРОЖЖА ВЕЛІКАНА

Хоць 110-тоннаму самазвалу «БелАЗ» пад сілу самыя цяжкія дарогі, у гэта падарожжа ён адпраўляецца не сваім ходам: вельмі ўжо вялікая адлегласць ад беларускага Жодзіна да амерыканскага Чыкага, дзе ў хуткім часе адкрыецца міжнародны аўтамабільны кірмаш.

Упершыню амерыканцы ўбачылі наш грузавік з экранаў сваіх тэлевізараў у пачатку лютага, у праграме «Маскоўскі мерыдыян», якую спецыяльна для амерыканскіх гледачоў рыхтуе Цэнтральнае тэлебачанне. Шасцімінутны сюжэт з БелАЗа даў магчымасць заакіянскім гледачам зазірнуць у цэхі прадпрыемства, а намеснік дырэктара па эканоміцы Фёдар Пінчук расказаў ім аб перабудове, новых умовах гаспадарання, якія асвойвае калектыў.

Пасланец з БелАЗа дапаможа амерыканцам больш даведацца аб савецкім аўтамабілебудаванні.

МАЙСТЭРСТВА



На многіх самых прэстыжных выстаўках дэманстраваліся работы беларускіх мастакоў-графікаў. Але гледачам наўрад ці вядома, што ў гэтых карцін ёсць яшчэ «саўтар»— Дзмітрый Малаткоў, друкар творчай эксперыментальнай графічнай майстэрні Саюза мастакоў БССР. Яму ўдзячны за дапамогу такія майстры, як Г. Паплаўскі, А. Лось і многія іншыя графікі. Дзмітрый Васільевіч дасканала валодае ўсімі відамі друку — каляровай і чорна-белай літаграфіяй, афортам, ксілаграфіяй. Д. Малаткоў узнагароджаны ордэнам Працоўнай Славы III ступені.
НА ЗДЫМКУ: Дзмітрый МАЛАТКОЎ з мастаком-графікам Раісай СІПЛЕВІЧ у сваёй майстэрні.

ВЫСТАЎКІ

## УСЁ ЖЫЦЦЁ — СЛУЖЭННЕ НАРОДУ

Экспазіцыя з такой назвай, прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння П. Машэрава, адкрылася ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна.

Скупыя радкі энцыклапедыі і сагрэтыя душэўным цяплом успаміны саратнікаў па партызанскаму мінуламу і сумеснай рабоце расказваюць аб жыцці выдатнага партыйнага кіраўніка і дзяржаўнага дзеяча. Тут прадстаўлены артыкулы і выступленні Пятра Міронавіча, газетныя і часопісныя публікацыі аб ім, прысвечаныя яму вершы, мемуары. Выстаўка невялікая, рыхтуючыся да яе, арганізатары сутыкнуліся з нечаканай цяжкасцю: не хапала матэрыялаў. Сціпласць і высокае пачуццё адказнасці не дазвалялі Пятру Міронавічу афішыраваць уласныя заслугі. Тым большую каштоўнасць мае для нас кожны дакумент, кожнае сведчанне блізкіх яму людзей.

ЛАСУНКІ ДЛЯ ЎСІХ



Вялікі попыт на вырабы, прыгатаваныя віцебскім кандытарам Еўдакіяй Старыкавай. Сярод іх — кексы і пірожныя, торты «Віцебскі», «Птушынае малако», «Кіеўскі», «Пражскі». Больш за трыццаць год аддала любімай справе Еўдакія Уладзіміраўна.
НА ЗДЫМКУ: кандытар з Віцебска Еўдакія СТАРЫКАВА.

ЗВЕРАГАДОЎЛЯ

## ПУШНІНА НА КАНВЕЕРЫ

Дзяржаграпром рэспублікі распрацаваў праграму паскоранага развіцця пушной зверагадоўлі. Да рэалізацыі намечанага першымі прыступілі калгас-камбінат «Прагрэс» Гродзенскага і калгас «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёнаў. Тут пачалося будаўніцтва спецыялізаваных зверагадоўчых ферм. Па сучаснай прамысловай тэхналогіі ў гэтых гаспадарках штогод будуць гадаваць больш за 200 тысяч норак. Карацейшым стане шлях прадукцыі і да прылаўка. Побач з фермамі ўзнімуцца карпусы цэхаў па вырабу шкурак, пашыву галаўных убораў. Ужо сёлета ў памяшканнях—шэдах—з'явяцца першыя «навасёлы», а праз тры-чатыры гады ўсе «кватэры» будуць заняты.

ЯК У ФІРМЫ «ПІРЭЛІ»

## РОБАТЫ-ЗБОРШЧЫКІ

На заводзе масавых шын вытворчага аб'яднання «Бабруйскшына» завяршаецца мантаж аўтаматызаванага комплексу для нарыхтоўкі дэталей і зборкі легкавых радыяльных шын.

З уводам комплексу штогод будзе паступаць у гандаль на 900 тысяч аўтапакрышак больш, чым раней. На заводзе ўкараненне робатаў павысіць прадукцыйнасць працы ў 2,6 раза, вызваліць каля 100 кваліфікаваных рабочых.

Тэхнічнае новаўвядзенне распрацавана ў Яраслаўлі. Падобная сістэма маецца толькі на прадпрыемствах італьянскай фірмы «Пірэлі».

ДЛЯ МУЖЧЫН

## ЗАПРАШЭННЕ НА КІРМАШ

Гомельскае вытворчае швейнае аб'яднанне «Камінтэрн»—прадпрыемства, якое спецыялізуецца на выпуску мужчынскіх касцюмаў. Толькі летась тут распрацавана 46 новых мадэлей, 17 з якіх прызнаны асабліва моднымі.

Вырабы аб'яднання неадназразова дэманстраваліся на ВДНГ СССР, галоўнай рэспубліканскай выстаўцы, дзе атрымалі высокую ацэнку. Сёлета прадпрыемства будзе ўдзельнічаць у міжнароднай выстаўцы тавараў народнага спажывання ў Будапешце.

АДПАЧЫНАК СЕЛЬСКІХ ЖЫХАРОЎ

## ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ Ў ВЁСЦЫ АБУХАВА

Народныя мелодыі, песні, духавая музыка ўпершыню прагучалі ў Палацы культуры, які адкрыўся ў калгасе «Шлях да камунізму» Гродзенскага раёна. Ён стаў сапраўдным упрыгажэннем цэнтра гаспадаркі вёскі Абухава.

Сельскім працаўнікам створаны ўсе ўмовы для паўнацэннага адпачынку. Дзве глядзельныя залы разлічаны на 670 месцаў, ёсць бібліятэка з чытальнай залай, памяшканне для сучасных абрадаў, танцавальная зала, студыя гуказапісу, пакоі для гуртковай работы, з густам аформленыя інтэр'еры. Тут жа, пад адным дахам, размешчаны плавальны басейн.

### КАЛЕКТЫЎНЫ ПАРТРЭТ НАВУКОВАЙ ЛАБАРАТОРЫІ

# ЖАМЧУЖЫНА НАШАЙ СТАЛІЦЫ

...Зразумела, мне давялося пазнаёміцца далёка не з усімі супрацоўнікамі гэтай лабараторыі: іх больш за трыццаць. Але некаторых дазвольце прадставіць. Юлія Рыжанкова — цюльпаны і гіяцынты, Людміла Завадская — нарцысы і лілеі, Галіна Жураўкіна — ружы, Эма Бурава — бэз і ірысы, Наталля Луніна і Вольга Манкевіч — мнагалетнікі, Ксенія Іпацьева — гладыёлусы...

Можа не зусім зразумела? Растлумачу: я дала самую кароткую характарыстыку заняткам кожнай з названых жанчын — навуковых супрацоўнікаў лабараторыі інтрадукцыі і селекцыі арнаментальных раслін (а прасцей — кветак) Цэнтральнага батанічнага сада Акадэміі навук Беларускай ССР. Менавіта пад іх асабістым наглядам і знаходзяцца ўсе тыя ружы, гваздзікі, цюльпаны, лілеі, якімі так вабіць мінскі Батанічны сад.

А пакуль яго алеі, сцежкі яшчэ пад снегам, і па іх мала хто ходзіць. Сад, здаецца, дрэмле, каб праз некалькі месяцаў успыхнуць празрыстай, звонкай маладой зелянінай, расцвісці доўгачаканымі пяшчотнымі фарбамі першых веснавых кветак. Але на справе спакой гэты — уяўны. Навуковая работа не мае сезонаў адпачынку. Асабліва адчуваецца гэта, калі зайсці ў цяпліцы. Тыя, хто добра ведае ледзяны подых студзеньскіх маразоў, жорсткасць неўгамоннага танца лютаўскай снежнай завірухі, зразумеюць, як гэта незвычайна — дыван з жывых кветак сярод зімы. І няхай сёння ні для кога не сакрэт, што веды, уменне, магчымасці сучаснай цывілізацыі бязмерныя, думаю, што і праз многія гады такая карціна будзе выклікаць захапленне.

Здавалася б, з года ў год жанчыны займаюцца адной і той жа справай, таму можна было б прызвычаіцца да яе. Але не. Працаваць механічна, раўнадушна з кветкамі, як і з дзецьмі, нельга.

**Галіна ЖУРАЎКІНА:** «Я больш люблю ружы маленькія — яны вельмі пяшчотныя і кранальныя».

Некалькі нечаканая характарыстыка ружы, ці не так? Часцей можна пачуць узрушанае захапленне, пышныя эпітэты... Яна і раскошная, і вытанчаная, і першая сярод першых. А тут —«кранальная». Нібы пра дзіця. Але, мне здаецца, трэба прыслухацца да слоў Галіны.

Дзесяць год працуе яна ў Батанічным садзе і ўвесь час з ружамі. Прыйшла адразу пасля сканчэння сярэдняй школы пад Мінскам. Яшчэ школьніцай-старшакласніцай два гады вывучала кветаводства. Тады і вырашыла свой «дарослы» лёс. У Батанічны сад яе прынялі лабаранткай да вельмі вопытнага ружавода, старшага агранома-біёлага Любові Гусаравай. У многім менавіта гэтай жанчыне мы ўдзячныя за тое, што Беларусь стала рэспублікай найпрыгажэйшых руж. Гэта яе «гадаванцы» — ружы сартоў «Куін Элізабет», «Дуйсберг», «Бель Анж» атрымалі прызнанне і за мяжой. Кветаводы Батанічнага сада прымаюць удзел у традыцыйных выстаўках «Флора-Аламоўц» у Чэхаславакіі, у краіне руж — Балгарыі. І звычайна без узнагар[illegible] не вяртаюцца. Вось і выш[illegible]званыя ружы атрымалі ў Ч…аславакіі залаты медаль. Ёсць у калекцыі мінскіх кветаводаў і іншыя важкія ўзнагароды.

Дваццаць восем сартоў руж перадала Любоў Гус[illegible]ва сваёй маладой памоч[illegible], калі ішла на пенсію. Галіна да таго часу скончыла ўжо біялагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Такім чынам, ружы, якія патрабуюць так шмат увагі, клопату, працы, перайшлі ў надзейныя рукі.

**Вольга МАНКЕВІЧ:** «Наша работа вымагае вялікай самааддачы. Яна нялёгкая фізічна, карпатлівая. Але ж такая цікавая!»

Старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат біялагічных навук Вольга Манкевіч займаецца селекцыяй мнагалетніх кветкавых культур. Яе мара — новыя сарты, народжаныя тут, на роднай Беларусі. Чвэрць стагоддзя звязвае яе з Батанічным садам. Вядома, былі за гэты час і прапановы перайсці некуды на іншае месца работы, але Вольга Іосіфаўна ўжо не змагла і не зможа кінуць сваіх падапечных — рамонкі і рудбекіі, гайлардзіі і эхінацэі... Адданасць — вось адна з найбольш характэрных рыс не толькі яе, але і ўсіх супрацоўнікаў лабараторыі. Адданасць сваёй працы, сваім пяшчотным, безабаронным «гадаванцам», адданасць прыгажосці.

Зараз Вольга Манкевіч прадставіла на зацвярджэнне два сарты рамонкаў. Не адстаюць і яе маладыя калегі. Тамара Бурганская прапанавала новыя сарты львінага зеву, Ірына Карэўка — вяргіню «Купалінка»... Так што ў Батанічным садзе чакаецца папаўненне.

Наколькі складанае і цяжкае нараджэнне новых кветак, можна меркаваць па расказу В. Манкевіч. Адны толькі феналагічныя назіранні колькі часу і сіл адбіраюць. На кожнай, літаральна кожнай раслінцы трэба лічыць і лісцікі, і кветачкі, і памеры яе і г. д. А колькі варыянтаў трэба зрабіць! Усё запісваць, весці строгі ўлік. Так стварала яна свае калекцыі. Сёння адабрана 1 590 перспектыўных форм. І за ўсімі патрэбна гаспадарскае вока. Але як прыемна было чуць ад знаёмых: «Вольга Іосіфаўна, уся выстаўка хадзіла любавацца вашымі гайлардзіямі» — гэта калі яе кветкі экспанаваліся на ВДНГ у Маскве.

**Наталля ЛУНІНА:** «Мая калекцыя мнагалетнікаў — у асноўным дзікая флора. Але ж іх можна падабраць так, што амаль круглы год вас будуць цешыць кветкі. Гэта ж так выдатна!»

Наталля Луніна расказвае пра сваю «дзікарослую флору», мне здалося, можа без канца. І сапраўды, чаго толькі не сабрана ў яе калекцыі! Нават прадстаўнікоў з Новай Зеландыі, Мадагаскара, Паўднёвай Амерыкі здолела яна «прыручыць». Вельмі добра растуць у Мінску многія міжземнаморскія расліны. А ўжо свае — дык усе сабраны. Найбольш трывалыя і дэкаратыўныя расліны пасля пэўнага часу назіранняў і адбору прапануюцца спецыялізаваным гаспадаркам для размнажэння і выкарыстання ў азеленянні гарадоў і пасёлкаў рэспублікі.

**Людміла ЗАВАДСКАЯ:** «Так хочацца, каб потым вырашчаныя табой кветкі радавалі як мага больш людзей».

Мабыць, такую радасць, якую прыносяць нарцысы Людмілы Завадскай, рэдка яшчэ якая кветка выкліча. Бо яны — практычна першыя сярод веснавой флоры. Менавіта іх часцей за ўсё можна бачыць у руках мужчын, якія віншуюць жанчын са святам Восьмае сакавіка.

Вось гэты клопат аб далейшым лёсе кветак уласцівы ўсім, хто з імі працуе. І ў сілу службовых абавязкаў і, мабыць, таму, [illegible]жыве ў чалавеку жаданне [illegible]авязкова падзяліцца прыгажосцю з іншымі.

Пра сябе асабіста ўсе мае новыя знаёмыя расказвалі вельмі неахвотна. Пра кветкі — калі ласка. А **Ксенія ІПАЦЬЕВА**, тая нао[illegible] прапанавала слайды, дзе за[illegible]ы гладыёлусы, і сказала: «Кветкі трэба ў першую чаргу бачыць». Пад яе наглядам знаходзіцца больш за паўтысячы сартоў гладыёлусаў. Некаторыя з іх ужо былі прадстаўлены на выстаўках. У Чэхаславакіі заваявалі сярэбраны медаль, а летась на ВДНГ у Маскве нават былі прызнаны чэмпіёнам. Хто з нашых чытачоў разводзіць кветкі, добра ведае, колькі гэта вымагае сіл. Але і Ксенія Іпацьева, і яе калегі ўмеюць глядзець на кветкі, захапляцца імі нібы першы раз.

**Эма БУРАВА**, намеснік загадчыка лабараторыі, кандыдат біялагічных навук: «Кожнаму з нас бывае вельмі цяжка, але мы любім сваю справу, гэта галоўнае».

Сама Эма Андрэеўна займаецца бэзам і ірысамі. Наведвальнікам добра знаёмы бэзавы гаёк на краі Батанічнага сада. Вясной, у маі, многія мінчане прыходзяць сюды спецыяльна дзеля яго. Бачны рознакаляровыя гронкі бэзу і з вуліцы праз агароджу. Сто дзевяноста сартоў у калекцыі: амерыканскія, французскія, нямецкія, нямала і сваіх, айчынных. Ёсць і беларускай селекцыі, напрыклад, сарты «Вера Харужая», «Мінчанка», «Абаронцы Брэста». Летась на выстаўцы ў Маскве калекцыя бэзу атрымала Дыплом І ступені з адзнакай.

Эма Бурава, як і іншыя супрацоўнікі лабараторыі, стараецца падтрымліваць цесныя сувязі з грамадскасцю, шматлікімі кветаводамі-аматарамі. Нярэдка яны добраахвотна прыходзяць, каб дапамагчы даглядаць расліны. Ім гэта цікава, ды і вопыту набяруцца побач з майстрамі.

**Юлія РЫЖАНКОВА:** «Прыходзьце да нас у Батанічны сад, не пашкадуеце. А мы заўсёды рады гасцям».

Так, у апошні час мінскі Батанічны сад уключаны ў схему турыстычных маршрутаў. І нездарма. Дзякуючы ўмелым клапатлівым рукам тых, хто там працуе, яго цяністыя алеі, непаўторныя паляны, багатыя кветнікі сталі сапраўднай жамчужынай нашай сталіцы.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

---

**«Дзякуй, доктар!» — такімі словамі пачынаюцца многія пісьмы, адрасаваныя загадчыку аддзялення захворванняў перыферычнай нервовай сістэмы 9-й клінічнай бальніцы Мінска, кандыдату медыцынскіх навук Уладзіміру Кургаеву. За пяць год работы ў галіне мануальнай тэрапіі ён, каму часткова, а каму і поўнасцю, дапамог пазбавіцца ад цяжкай хваробы — остэахандроза. З такім захворваннем было ў доктара Кургаева некалькі тысяч пацыентаў. У аддзяленні шырока прымяняюцца нетрадыцыйныя спосабы лячэння остэахандроза. Удасканальваючы ўжо існуючыя метады тэрапіі, вопыт неўрапатолагаў, артапедаў, фізіятэрапеўтаў і іншых спецыялістаў, якія лечаць хворых, Уладзімір Іванавіч уключае ў працэс лячэння «ручную тэрапію» пазваночніка і суставаў.**

**Мэта даследаванняў, якія праводзіць У. Кургаеў у клініцы, — аб'яднанне метадаў мануальнай тэрапіі з элементамі традыцыйнага лячэння.**





**НА ЗДЫМКАХ: загадчык аддзялення 9-й клінічнай бальніцы Мінска, кандыдат медыцынскіх навук Уладзімір КУРГАЕЎ; пісьмы-падзякі, пісьмы-просьбы аб лячэнні.**

**Фота Л. КЛІМАНСКАГА.**

---

### СУПРАЦОЎНІЧАЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ І ПОЛЬСКІЯ ЧЫГУНАЧНІКІ

## АБ'ЯДНОЎВАЕ ГРАНІЦА

Калектывы пагранічных чыгуначных станцый Свіслач, Бераставіца і Гродна заключылі дагаворы аб прамых вытворчых сувязях са сваімі калегамі са станцый Семянуўка, Зубкі-Беластоцкія і Беласток, Кузніца-Беластоцкая Польскіх чыгунак.

Яшчэ ў 1973 годзе паміж Баранавіцкім аддзяленнем Беларускай чыгункі і Сядлецкім раёнам перавозак чыгунак ПНР быў заключаны дагавор аб інтэрнацыянальным працоўным спаборніцтве. Потым падобныя пагадненні былі заключаны і паміж іншымі калектывамі дзвюх братніх краін. Гэты вопыт даў магчымасць укараніць новую форму супрацоўніцтва. Чым яна адрозніваецца ад папярэдніх і якіх вынікаў ад яе чакаюць?

— У першую чаргу тым, што калектывы цяпер самі і плануюць, і арганізуюць сваю работу, — растлумачае старшы інжынер аддзела міжнародных перавозак Баранавіцкага аддзялення чыгункі П. Паўлоўскі. — Па-другое, новая форма супрацоўніцтва не абмяжоўваецца чыста вытворчымі кантактамі.

Ужо сёння выразна відаць узаемная выгада такога супрацоўніцтва, яго ўздзеянне на эфектыўнасць работы. Вось некалькі прыкладаў. Цяпер ёсць магчымасць канкрэтна ведаць дэталі, напрыклад, які паражняк прыйдзе і колькі ў саставе вагонаў. Гэта дапамагае правільна вызначаць фронт пагрузачных работ. Або наш дзяжурны на станцыі паведамляе аб гатоўнасці састава польскаму калегу, а той высылае пад яго свой лакаматыў. Такім чынам скарачаюцца валютныя плацяжы. Здараецца, што няма свайго лакаматыва для маняўровай работы — выручаюць суседзі. Справа ж агульная.

Пэўныя выгады новай формы супрацоўніцтва адчуюць і пасажыры міжнародных паяздоў. Раней не было магчымасці хутка пераправіць цераз граніцу багаж нашых гасцей. Цяпер па дамоўленасці польскія таварышы праз дзень прысылаюць у Гродна вагон са сваімі работнікамі і самі вывозяць груз. Пры неабходнасці такія аперацыі можна праводзіць штодзённа. Па просьбе савецкага боку таксама павялічана колькасць вагонаў на маршруце Кузніца—Гродна, што зняло праблему перавозкі людзей на гэтым напрамку.

Можна ўпэўнена сказаць: граніца ў прамым сэнсе аб'ядноўвае работнікаў важнейшай галіны народнай гаспадаркі абедзвюх краін. І не толькі ў вытворчым плане, таму што традыцыйнай сталі абмены культурнымі дэлегацыямі, творчыя і спартыўныя сустрэчы, адпачынак дзяцей у польскім піянерскім лагеры «Урле» і нашай «Ісе».

**М. ГУСЕЎ.**

### ІНЮРКАЛЕГІЯ ВАМ ДАПАМОЖА...

# У ІНТАРЭСАХ ЛЮДЗЕЙ

Некалькі год таму назад у прадстаўніцтва Інюркалегіі ў Беларускай ССР звярнулася Антаніна Пухонта з Баранавіч. Яна прасіла аказаць садзеянне ў атрыманні спадчыны, што засталася ў Лондане пасля смерці яе бацькі Лукі Пухонта. Інтарэсы кліенткі ў Англіі абараняла адвакацкая фірма Тэрнер Кенет Браўн. З ёю мы даўно і плённа супрацоўнічаем. Пасля правядзення неабходнай работы кліентцы былі выплачаны спадчынныя актывы на льготных умовах.

Гэта адзін з многіх прыкладаў таго, як мы дапамагаем людзям у вырашэнні спадчынных і іншых спраў.

«Інюркалегія расшуквае сваякоў памёршага...» — такія аб'явы час ад часу з'яўляюцца ў цэнтральных і мясцовых органах савецкага друку. Аднак росшукі сваякоў памёршага за мяжой грамадзяніна, аказанне садзеяння ў атрыманні спадчыны складаюць толькі частку работы гэтай установы.

А што гэта за служба і якія яе функцыі, ведаюць нямногія. Таму мы хацелі б коратка расказаць аб тым, чым занята Інюркалегія, якую ролю ў жыцці людзей яна адыгрывае.

Інюркалегія (Замежная юрыдычная калегія) — гэта спецыялізаваная асацыяцыя савецкіх адвакатаў, якія аказваюць юрыдычную дапамогу савецкім і замежным грамадзянам, асобам без грамадзянства і арганізацыям. Да ўтварэння Інюркалегіі яе функцыі выконвала акцыянернае таварыства «Крэдыт-Бюро». У 1937 годзе яно было ліквідавана і яго правапераемнікам стала Інюркалегія. У той час у яе штаце было каля 10 адвакатаў, цяпер жа ў Інюркалегіі працуюць больш за 100 юрыстаў і іншых спецыялістаў. Гэта кампетэнтныя людзі. Як правіла, адвакаты і кансультанты добра знаёмы з нормамі матэрыяльнага і працэсуальнага права розных краін.

Гаворачы вобразна, штабкватэра нашай службы размешчана ў Маскве. Для найбольш поўнага і эфектыўнага аказання дапамогі кліентам у дзесяці гарадах Савецкага Саюза, у тым ліку і ў Мінску, адкрыты прадстаўніцтвы Інюркалегіі.

Дзелавыя кантакты звязваюць Інюркалегію з адвакацкімі фірмамі ЗША, Вялікабрытаніі, ФРГ, Канады, са страхавымі і банкаўскімі арганізацыямі розных дзяржаў. Вялікую дапамогу ў рабоце аказваюць савецкія пасольствы і консульствы, Галоўнае архіўнае ўпраўленне пры Савеце Міністраў СССР, Цэнтральны архіў Міністэрства абароны краіны.

Тысячы спраў правялі ў судах СССР і за мяжой адвакаты з Інюркалегіі, абараняючы інтарэсы савецкіх і замежных грамадзян. Большасць з іх тычылася спадчыны. Пытанні спадчыннага права займаюць важнае месца ў адносінах паміж грамадзянамі розных краін. Супрацоўніцтва дзяржаў у гэтай галіне яшчэ раз пацвярджае, што яго мэтай з'яўляецца забеспячэнне правоў і абарона інтарэсаў вялікай колькасці грамадзян практычна ўсіх краін свету.

Заканадаўства СССР прадугледжвае, што грамадзяне нашай краіны маюць права прымаць спадчыну, што адкрылася за мяжой. Больш таго, дзяржава забяспечвае такое права рознымі прававымі сродкамі. Напрыклад, пры ўзнікненні спадчыннай справы за мяжой на карысць грамадзяніна нашай краіны Інюркалегія забяспечвае кліента прадстаўніком з ліку фірм і адвакатаў, якія супрацоўнічаюць з ёю, каб абараняць яго інтарэсы ў замежным судзе. Вось толькі некаторыя з гэтых фірм: Вольф Попер Рос (ЗША), Тэрнер Кенет Браўн (Англія), Іаахім Фрыдрых Мозер (ФРГ), Роберт Гордан Прайс (Канада) і многія іншыя.

Савецкія ж адвакаты аказваюць дапамогу кліентам у зборы неабходных для атрымання спадчыны дакументаў, афармляюць іх на замежных мовах.

Такая работа, як правіла, працягваецца доўга і часта ўскладняецца тым, што ў час вайны патрэбныя дакументы былі згублены, а многія архівы на акупіраваных гітлераўцамі тэрыторыях нашай і іншых краін не захаваліся. Таму адвакатам даводзіцца займацца і карпатлівымі пошукамі ў цэнтральных і мясцовых архівах. І ўжо ў апошнюю чаргу публікуюцца аб'явы ў газетах аб росшуках спадчыннікаў.

Нам, работнікам Інюркалегіі, вельмі часта даводзіцца сутыкацца з распаўсюджанымі на Захадзе сцвярджэннямі, што ў Савецкім Саюзе, маўляў, адсутнічае спадчыннае права, што ўсе спадчынныя сумы, якія паступаюць з-за мяжы, перадаюцца дзяржаве. Гэта няправільна: савецкія грамадзяне маюць права атрымліваць у спадчыну грашовыя сумы, каштоўныя рэчы, архівы, кнігі, карціны і г. д. і могуць распараджацца ўсім па свайму меркаванню. Толькі па свайму жаданню і добраахвотна спадчыннікі могуць перавесці частку спадчынных актываў ці ўсю суму ў пэўныя фонды, напрыклад, у Фонд міру, Фонд культуры альбо перадаць у дар музею карціну, іншыя каштоўныя рэчы.

Сумы, якія атрымаў спадчыннік, выплачваюцца на льготных умовах. У выпадках, калі абараняюцца інтарэсы замежных грамадзян па іх спадчынных справах, грашовыя сумы пераводзяцца ім у той валюце, якая мае абарачэнне ў краіне, дзе яны пражываюць.

Бытуе такая думка, быццам спадчынныя актывы, што пераводзяцца ў СССР з капіталістычных краін, лічацца мільёнамі. На самай справе асноўныя паступленні нязначныя. Сотні тысяч і мільёны атрымліваюць у спадчыну крайне рэдка. Ды і адкуль такія неверагодныя сумы маглі з'явіцца ў людзей, якія ехалі, напрыклад, з Заходняй Беларусі на заработкі, ці ў тых, каго вывезлі ў гады другой сусветнай вайны фашысты ў Германію. Часцей за ўсё нашы суайчыннікі падзялялі долю рабочых-эмігрантаў, займаючыся цяжкай некваліфікаванай працай: шахцёры, лесарубы, будаўнікі, рознарабочыя.

Спадчыннікі ў нашай краіне, на імя якіх пераводзяцца грашовыя сумы, маюць права ўступіць у жыллёва-будаўнічыя кааператывы, карыстацца пуцёўкамі на санаторна-курортнае лячэнне, быць членамі гаражных кааператываў.

Трэба адзначыць і такі немалаважны факт: спадчына, атрыманая з-за мяжы, у нас не абкладаецца дзяржаўнай пошлінай.

Інюркалегія аказвае паслугі грамадзянам у атрыманні пенсіённых плацяжоў. Частка нашых суайчыннікаў, хто паехаў у свой час на заработкі, каго пагналі ў Германію ў час вайны, вярнулася на Радзіму праз многія гады. Але ж, знаходзячыся на чужыне, яны там працавалі. Значыць, такія людзі маюць права на пенсіённае забеспячэнне з той краіны, дзе яны працавалі. Памер замежнай пенсіі вызначаецца прапарцыянальна часу работы. Калі грамадзянін атрымлівае савецкую пенсію, то, пры наяўнасці ў яго права на пенсію з іншай краіны, савецкая пенсія захоўваецца ў поўным размеры. У пацвярджэнне хачу спаслацца на жыхароў Мінска Т. Будзёнава і В. Чэпіка. Доўгія гады яны жылі ў Канадзе, а пасля вайны вярнуліся на Радзіму. Натуральна, і ў Канадзе, і ў Беларусі яны працавалі. Цяпер абодва атрымліваюць і канадскую, і савецкую пенсіі.

Права на замежную пенсію маюць таксама і ўдовы тых асоб, якія працавалі за мяжой. У якасці прыкладу можна прывесці Л. Казінскую, жыхарку Гродзенскай вобласці, якая атрымлівае пенсію на свайго мужа з Англіі.

Хачу ўдакладніць, што права на атрыманне замежнай пенсіі маюць толькі тыя асобы, якія працавалі ў капіталістычных краінах. Гэта ж палажэнне тычыцца і пенсій удоў.

Пенсіённыя сумы, атрыманыя з іншай краіны, выплачваюцца пенсіянерам таксама на льготных умовах.

У пэўных выпадках Інюркалегія аказвае садзеянне савецкім грамадзянам у атрыманні ваенных пенсій з-за мяжы. У час другой сусветнай вайны многія савецкія людзі ўдзельнічалі ў баях супраць фашыстаў у складзе дружалюбных армій, напрыклад, у польскіх фарміраваннях пад эгідай Вялікабрытаніі.

Да нас часта звяртаюцца людзі, у якіх за мяжой жывуць блізкія сваякі, з просьбай аказаць садзеянне ў пераводзе грашовых сум ад гэтых асоб. З такімі ж просьбамі звяртаюцца і іншаземцы. Згодна з савецкім заканадаўствам аб шлюбе і сям'і, замежныя грамадзяне маюць права аказваць матэрыяльную дапамогу сваім блізкім: непрацаздольным бацькам, дзецям, якія не дасягнулі паўналецця, а таксама непрацаздольным мужу ці жонцы; родным братам і сёстрам пенсіённага ўзросту і некаторым іншым катэгорыям грамадзян. Гутарка ў даным выпадку ідзе аб добраахвотным волевыяўленні сваякоў, якія жывуць за мяжой і пераводзяць грашовыя сумы. Інюркалегія аказвае грамадзянам садзеянне ў гэтым.

Акрамя таго, мы прымаем даручэнні кліентаў і на вядзенне грамадзянскіх спраў іншых катэгорый: аб спагнанні страхавых сум кампенсавання, банкаўскіх укладаў, выпатрабаванні асабістай маёмасці і г. д. Такія паслугі аказваюцца як савецкім грамадзянам па іх справах, звязаных з міжнародным правам, так і іншаземцам і асобам без грамадзянства па іх справах у Савецкім Саюзе. У прыватнасці, прадстаўляюцца інтарэсы гэтых асоб па справах аб раздзеле агульнай маёмасці, аб устанаўленні апекі, у спрэчках аб месцы жыхарства дзяцей і да т. п. Іншы раз адвакаты Інюркалегіі ўдзельнічаюць у судовым пасяджэнні па даверанасці кліента, тым самым асабістая прысутнасць даверніка не патрабуецца.

Вялікую ўдзельную вагу ў дзейнасці асацыяцыі складае кансультацыйная работа. Вядзецца прыём наведвальнікаў, даюцца адказы на шматлікія пісьмы, якія прыходзяць не толькі з розных гарадоў нашай краіны, але і з-за мяжы.

Сёння, у сувязі з расшырэннем эканамічных, навуковых і культурных сувязей нашай краіны з замежнымі дзяржавамі, а таксама развіццём гандлю, турызму, павелічэннем асабістых і сямейных кантактаў паміж людзьмі Інюркалегія прадстаўляе ў СССР інтарэсы фірм, страхавых кампаній, іншых арганізацый па справах, што вынікаюць са знешнегандлёвых здзелак і дагавораў па марскіх, авіяцыйных і іншых перавозках.

На сённяшні дзень Замежная юрыдычная калегія прадстаўляе інтарэсы сваіх кліентаў больш чым у 80 краінах свету.

**Карлен МКРТЫЧАН,**
**старшы кансультант прадстаўніцтва Інюркалегіі ў Беларускай ССР.**



**Калі ў вас узнікне спадчынная праблема, звяртайцеся па адрасу:**

**220100, Беларуская ССР,**
**г. Мінск,**
**вул. Горкага, 70.**
**Замежная юрыдычная калегія**

**Нагадваем замежныя фірмы, якія супрацоўнічаюць з Замежнай юрыдычнай калегіяй:**

**FRED STASIUK M. Sc., LL.B.**
Barrister & Solicitor
2459 Bloor St. West (at Jane)
Toronto, Ontario M6S 1P7 Canada

**J. ANDREW BUNN & ASSOCIATES**
Barrister & Attorneys-at-Law
131-1311 Portage Avenue, Winnipeg
Manitoba, Canada R3G DV3

**Mr. DAVID M. JONES, P. C.**
Attorney at Law
Suite 1000, 1314 Chestnut Street
Philadelphia, Pa, 19107 U.S.A.

**TURNER, KENNETH, BROWN**
Solicitors
100 Fetter Lane
London ET4A 1DD
Great Britain

**JOACHIM-FRIEDRICH MOSER**
Zeppelinstrasse, 36
7570 Baden-Baden BRD

**M. DANIEL GUYOT**
Avocat à la Cour, 83 Avenue Foch
75116 Paris France

**WOLF POPPER ROSS WOLF & JONES**
Attorneys at Law
845 Third Avenue, New York
10022 N.Y. U.S.A.

# ИНОСТРАННЫЙ ЯЗЫК— С ДЕТСКОГО САДА

В детском саду идет... урок французского языка. Преподаватель Лариса Вахобова одну за другой берет в руки игрушки, дети дружным хором называют их по-французски: мишка, собака, тигр, машина. Четырехлетние малыши из детского сада № 848 — в одном из новых районов Москвы — уже после нескольких занятий знают больше семидесяти французских слов и выражений.

Эти дети — участники широкого эксперимента по изучению иностранных языков, который начался в сорока детских садах Москвы, десятках дошкольных учреждений Ленинграда и Свердловска с сентября 1987 года.

Английским, немецким, французским здесь занимаются ребята от 4 до 6 лет. Педагоги, специалисты по дошкольному воспитанию считают, что в этом возрасте проявляется наибольшая восприимчивость к языку, так называемая лингвистическая активность. Уроки построены так, что дети не только пассивно запоминают, но занимаются словотворчеством, сами придумывают различные забавные слова, фразы. Методика проведения уроков разработана Научно-исследовательским институтом школ Министерства просвещения Российской Федерации.

— Основа этой методики — урок-игра,— говорит Лариса Вахобова, недавняя выпускница Московского государственного педагогического института имени В. И. Ленина.— Наши пятнадцатиминутные занятия (они проводятся каждый день) — радостное событие для ребят. Дети каждый раз сожалеют, что они уже кончились, и с нетерпением ждут следующих.

Урок Ларисы — подтверждение ее слов. Например, она затевает с ребятами путешествие на необитаемый остров. Дети садятся в воображаемый корабль (несколько раз каждый говорит слово «корабль» по-французски), потом «мореплаватели» высаживаются на остров, идут через тропический лес, встречая разных зверей и называя их. Потом малыши переплывают реки (вводится слово «плавать»), убегают от хищников, чуть не попадают в пропасть... Все кончается благополучно, и незаметно для себя «путешественники» запоминают несколько новых слов.

— По условиям эксперимента в нем участвуют все без исключения дети в группе. Не производится никакого предварительного отбора. Кстати, детские сады тоже не выбраны, взяты самые обычные,— рассказывает Лариса Вахобова. — Но не у всех, понятно, детей одинаковые способности. Поэтому на уроке я наблюдаю, кто то или иное слово, выражение усвоил плохо. В таких случаях дополнительно занимаюсь с этими ребятами.

Есть и другие условия эксперимента. Преподаватели работают в детском саду не просто в качестве языковых учителей: дали урок и ушли. Они к тому же еще и воспитатели, проводят с ребятами целый день.

Методика преподавания иностранных языков в детских садах будет совершенствоваться в течение трехлетнего эксперимента. Накопленные педагогами, психологами, гигиенистами данные позволят распространить это начинание на все детские сады страны.

**Алина АЛЕСИНА.**







**Ханты, украинцы, русские, башкиры учатся в Охтиурской национальной восьмилетней школе. Есть здесь мальчики и девочки из Белоруссии, их родители прокладывают дороги к нефтяным кладовым Западной Сибири, возводят в таежном крае благоустроенные жилые поселки. Дети живут дружно. Объединены общими интересами и за школьной партой, и во всех своих иных делах.**

**НА СНИМКАХ: урок математики ведет Лариса СЕРЫШЕВА, приехавшая в Сибирь из солнечной Молдавии; подружила школа Таню СИГИЛЬЕТОВУ из хантыйского села Охтиуры и белоруску Таню БУЕВИЧ; председатель Охтиурского сельского Совета Виталий БУРУНДУКОВ (слева), преподаватель начальных классов Валентина КАБИНА и управляющий трестом «Белнефтедорстрой» Анатолий ОКАТОВ с учениками школы.**

**Фото А. ТОЛОЧКО.**

# КУРАНТЫ МОСКОВСКОГО КРЕМЛЯ

Каждый день ровно в полночь над затихшей Красной площадью Москвы раздается первый удар колоколов Кремлевских курантов. Сочные гулкие звуки отмеряют первые секунды нового дня. В то же мгновение этот перезвон, подхваченный волнами Всесоюзного радио, разносится во все концы страны и за ее пределы.

«Хранительница» курантов Спасская башня — самая величественная в Московском Кремле. Она же — его ворота со стороны Красной площади. От нее начинают свой печатный шаг часовые поста № 1 Советского Союза — Мавзолея В. И. Ленина.

Башня была построена итальянским архитектором Пьетро Антонио Солари в 1491 году и перестроена русским зодчим Баженом Огурцовым и английским мастером Христофором Галовеем в первой половине XVII века. Галовей стал и создателем первых больших курантов, которые были смонтированы на ней в 1625 году.

Время не сохранило для нас механизм этих часов. Куранты на Спасской башне неоднократно заменялись. Нынешние установлены с использованием старых деталей в 1851—1852 годах братьями Н. и П. Бутеноп.

В октябре 1917 года во время боев между отрядами Красной гвардии и сторонниками Временного правительства в циферблат курантов попал снаряд. На некоторое время столица лишилась своей достопримечательности — спасского перезвона.

После переезда Советского правительства в Москву в 1918 году по указанию В. И. Ленина часы были восстановлены мастером Н. Беренсом, а художник и музыкант М. Черемных набрал на игральный вал механизма мелодию «Интернационала». «Вставай, проклятьем заклейменный...»—зазвучало над Красной площадью. Кремлевские куранты начали отсчет нового времени.

Часы занимают в Спасской башне четыре этажа — с 7-го по 10-й. Приводятся в действие тремя гирями весом от 160 до 224 килограммов. Механизм боя, находящийся под шатром башни, состоит из девяти четвертных — отбивающих четверть часа — колоколов весом 320 килограммов и часового, то есть отбивающего полный час, колокола весом 2160 килограммов. Общий вес часов около 25 тонн. Циферблаты установлены с четырех сторон башни и имеют диаметр 6,12 метра. Длина часовой стрелки 2,97 метра, минутной — 3,28 метра.

Колокола-куранты — интереснейшие образцы художественного литья XVII—XVIII веков. Создавались они различными мастерами колокольных дел, среди которых были Кирилл Самойлов, Семен Можжухин.

В наши дни Кремлевские куранты не только символ, достопримечательность Москвы. Это и эталон времени. Специальный подземный кабель связывает Спасскую башню с контрольными часами Государственного астрономического института имени П. К. Штернберга. Точность их хода гарантирована.

Каждый, кто приезжает в советскую столицу хоть на день, стремится попасть на Красную площадь, подойти к Мавзолею, увидеть смену караула у его входа. И тогда, несомненно, он услышит льющиеся над площадью легкие звуки. Бьют часы на Спасской башне — это голос веков и голос нашего времени.

**Владимир НЕКЛЕСОВ.**

# ПРИЧАЛЫ ИЗ МОРСКОЙ ВОДЫ

**«...Эксперимент прошел успешно. Строительство ледовых причалов из морской воды рекомендуем в практику» — такое заключение сделала авторитетная государственная комиссия, тщательно исследовав необычный причал в морском торговом порту Мыс Шмидта на Крайнем Севере.**

Возводя новый причал на Мысе Шмидта, строители полностью обошлись без бетона и цемента. Построен причал из... обычной морской воды. Его длина — 740 метров. На сооружение ушло всего 300 тысяч рублей. Для сравнения: строительство современного морского причала обходится в несколько миллионов...

Вот уже несколько десятилетий суда Дальневосточного морского пароходства в начале мая берут курс на Крайний Север, богатый крупными месторождениями различных природных ископаемых. Здесь, на побережье Ледовитого океана, строятся новые рудники, горно-обогатительные комбинаты, шахты, шоссейные дороги. В эти места, куда доставляют буквально все необходимое для жизни: продукты, одежду, книги, технику — есть всего два пути — воздушный и морской. Воздушный слишком дорог для того, чтобы сделать его здесь главной транспортной артерией. Да и крупногабаритные грузы самолетом пока не доставишь. Поэтому основная ставка сделана на морской флот.

— У моряков, конечно, тоже свои проблемы, — говорит начальник Дальневосточного морского пароходства В. Миськов. — Во-первых, арктическая навигация длится только с мая по конец октября. За это короткое время надо перевезти миллионы тонн различных грузов: от швейных иголок до телевизоров и автомобилей. С помощью современных ледоколов мы стремимся увеличить сроки навигации, но на пути к этой цели немало барьеров.

Наиболее существенный из них — толстые ледовые поля, преграждающие путь кораблям в порты. Лед в арктических морях — круглый год. Зимой его толщина достигает нескольких метров. Поэтому суда, как правило, выстраиваются в караван. Впереди мощные ледоколы. Они и прокладывают для судов «колею» во льдах.

Другая, не менее серьезная проблема — грузовые операции. Арктические порты, как правило, небольшие. Строить здесь крупные морские причалы дорого и невыгодно, поскольку они без дела простаивают долгую северную зиму. Моряки и специалисты постоянно ищут пути разрешения этой проблемы.

Во многом ее облегчил приход на Дальний Восток лихтеровоза «Алексей Косыгин». Это гигантское судно берет на борт сразу 92 лихтера (несамоходные баржи) весом 370 тонн каждый. В них, словно в больших контейнерах, различные грузы. Судно следует вдоль побережья, выгружая лихтеры на рейдах портов. Потом их цепляют к буксиру и доставляют к берегу. Сгружать лихтеры на воду помогает мощный судовой кран грузоподъемностью 500 тонн. Кстати, один лихтеровоз заменяет сразу четыре океанских судна дедвейтом 10 тысяч тонн каждое.

Но и «Алексей Косыгин» не способен полностью разрешить проблему грузовых операций. Прошлым летом на помощь ему пришел «Витус Беринг» — дизель-электроход усиленного ледового класса, способный самостоятельно, без помощи ледокола, пробивать себе путь в арктических морях. Основная отличительная особенность «Витуса Беринга» в том, что на палубе судна — два больших грузовых вертолета, исполняющих обязанности докеров. В считанные часы доставляют они на берег различные грузы. В конце прошлой навигации во Владивосток пришло новое судно типа «Витус Беринг» — «Алексей Чириков».

Новинкой последней навигации стал и необычный причал.

Взяв в союзники суровый климат Крайнего Севера, его морозы, достигающие сорока и более градусов по Цельсию, долгую зиму, которая длится здесь девять месяцев, коллектив арктического порта Мыс Шмидта соорудил причал из обычной морской воды. А для того чтобы он коротким арктическим летом не стал таять, «спину» ему укутали толстым «одеялом» из гравия и гальки.

Здесь уже швартовались десятки различных судов. На причал выгружались тяжелые бульдозеры и большие автосамосвалы, контейнеры, крупные строительные конструкции, продукты питания, тысячи бочек с топливом, другие грузы. Причал трудился круглые сутки и на «отлично» выдержал экзамен.

По мнению специалистов, такой очень дешевый и весьма быстрый метод строительства ледовых причалов станет в недалеком будущем обычным делом в морских торговых портах советской Арктики.

**Анатолий ИЛЬЮХОВ.**




## УРЫЎКІ З ГІСТАРЫЧНАЙ АПОВЕСЦІ

**Мар'ян ВІЖ**

(Працяг. Пачатак у № 9).

Гось няспешна апусціў завостранае гусінае пяро ў гліняную чарнільніцу, разгарнуў кнігу і прыгожым почыркам каліграфічна вывеў:

«28 лютага 1863 года.

Дваранін Пінскага павету Іосіф Дамінікаў Глябовіч».

У апошнюю графу «З якою мэтаю і куды едзеце?» запісаў: «Пытаюся аб умовах службы ў мясцовых памешчыкаў паводле запрашальных аб'яў, змешчаных «Губернскими ведомостями». Маю адпаведныя рэкамендацыі і паперы з пісьмовым дазволам Начальства, што засведчана ў іх казённаю пячаткаю».

Разабраўшыся з рэчамі госця, Рабы замітусіўся. На вячэру ён вынес з кухні бульбяную бабку са скваркамі. Збегаў у камору, зняў з-пад столі круг каўбасы, адшматаваў ад адной з шынак добры кавалак. Здрабняючы мяса і раскладаючы яго па талерках, Рабы асцярожна і няўпэўнена, зусім не так, як гэта рабіў Гіцка, прапанаваў:

— Што, паночак, піць пажадаеце? Выбар слаўны: стары мядок і зуброўка, польская старка, мадэра, шампань, нямецкія віны, гішпанскі каньяк, розныя лікёры, тутэйшыя нашы салодкія наліўкі. А для простага люду — вось, калі ласка,— ён ткнуў пальцам на кут пад лесвіцай, дзе з-пад посцілкі высоўваліся шарэнгі бліскучых, кожная ў вядры са два, бутляў,— паўнюткае мора спірытусу. Яшчэ свежанькі, толькі сёння з булгакоўскага бровару, а мацунак — ого! Нават самому акцызніку, што прысоўваўся іх гарлавіны сургучом запячатваць, даспадобы прыйшоўся. Разбавіць Гіцка спірытус крынічнаю вадзіцаю, атрымаецца гарэліца — боская слязінка-весялуха, радасць і шчасце для гаротніка-мужыка...

— Паднясі чарачку зуброўкі, ніяк не сагрэюся, ды і кашаль, ліха на яго, прычапіўся,— спыніў госць звычайны для корчмаў бясконцы пералік напіткаў і другі раз дастаў гадзіннік. — Як позна!

— Я мігам вока, паночак. Гарэлка ў склепе,— запэўніў Рабы і, трымаючы перад сабою свечку, пакінуў залу.

Але накіраваўся ён зусім не ў склеп. Служка патаптаўся на месцы ў бакавым калідорчыку перад паточанай шашалем разною шафаю, без рыпу расчыніў дзверцы, зняў з паліцы штоф залацістай зуброўкі. Пасля з самай ніжняй шуфляды выцягнуў чорны, пацягнуты бліскучым лакам куфэрак, адамкнуў маленечкім ключыкам накрыўку, прыслухаўся. З-за сцяны данеслася невыразнае шамаценне, скрэбанне. Рабы спалохана азірнуўся. Нікога. «Мышы»,—супакоена выдыхнуў ён, жагнаючыся. Затым з куфэрка насыпаў адно каліва нечага ў зуброўку. Заціснуўшы гарлавіну бутэлькі пальцам, скалануў і пачакаў, пакуль вадкасць стала зноў празрыстай...

Не, не атрута стала дамешкам. На такі цяжкі грэх Рабы ніколі не адважыўся б. У ход зараз пайшло ўсяго толькі даволі моцнае, неаднойчы выпрабаванае соннае зелле, якім Гіцка патроху ўпотай частаваў заможных гасцей, каб прымусіць іх заначаваць у карчме, паснедаць, а, значыць, і раскашэліцца тут. Праўда, цяпер у Рабога мэта іншая: калі зелле ўдарыць і падазроны дзяцюк засне, ён пакіцху ўлезе ў свіран, дзякуючы другому ключу, пра які госць, безумоўна, не ведае. Узламае там цяжкія скрыні, каб пераканацца, што ў іх сапраўды зброя. А тады... тады ён ведае, што рабіць. «Сённяшні выпадак можа павярнуць на добрае ўсё маё жыццё. Засвеце і нам сонейка!»— з надзеяй узбуджана шаптаў Рабы.

Далей усё пачало завязвацца менавіта так, як ён намеціў. Госць, хоць без ахвоты, быццам прымаючы горкае лякарства, але, зажмурыўшыся, асушыў чарку і вяла, збольшага, павячэраў. Пажадаўшы пачціваму служцы добрай ночы, ён, паволі перастаўляючы адразу пацяжэлыя ногі, падняўся па лесвіцы ў свой пакойчык. Там, не запальваючы святла, зачыніўся і сціх імгненна.

Настаў час дзейнічаць Рабому. Калоцячыся ад нецярплівасці, ён падскочыў да рэгістрацыйнай кнігі. Паслініў палец, узяўся ліхаманкава гартаць старонкі.

А, вось тая, апошняя, дзе пакінуў аб сабе запіс падазроны госць. Які ўжо раз служка да слёз пашкадаваў, што невучоны, што амаль непісьменны. З адчаю ён плюнуў у тую праклятую кнігу і моцна вылаяўся, бо з пятага на дзесятае мог сяк-так разбіраць па складах адно толькі друкаванае.

У начным свірне магло закруціцца ў галаве ад духмянага, дурманлівага водару антонавак, які шыбаў у нос з прысадзістых бочак, дзе засыпаныя залацістым жытам сакаўныя яблыкі зберагаліся аж да Пятра. Але ці да гэтага служцы? Ён спяшаўся. Свечка доўга не запальвалася, бо непаслухмяныя пальцы Рабога калаціліся. Ад прадчування незвычайнай удачы ў яго ўсё гарэла. Служка дыхаў часта, з ілба каціўся халодны пот, а прагныя вочы, страціўшы людское цяпло, ашклянелі, зрабіліся як у вар'ята.

Сапсаваўшы з добры дзесятак сернікаў, Рабы, нарэшце, наблізіўся да першай скрыні, але раптам застыў на месцы, бо над галавою нешта заварушылася. Пачулася глухое «лоп, лоп, лоп!». Служка не разгубіўся, шурпатай далонню мігам згасіў агеньчык, матнуўся ценню, прыпаў целам да гладкіх, слізкіх ад вільгаці бярвенняў сцяны. Хутка Рабы зразумеў: нічога асаблівага, дзесьці на гарышчы лётае кажан. Адлягло ад грудзей, і цяпер больш нішто не замінала чалавеку з сякераю.

Накрыўкі на ўсіх скрынях падаліся адразу. Ад дзвюх першых Рабы хутка адышоў. Адышоў, не верачы вачам, са збянтэжаным расчараваннем, не знайшоўшы ніякай зброі. Скрыні да самага верху былі закладзены ніколі раней не бачаным ім жалезным рыштункам. Прычым разнастайныя, сярэдніх памераў невядомыя металічныя рэчы ляжалі старанна загорнутыя анучкамі, мокрымі ад алею. Ад злоснага расчаравання Рабы ўрэзаў у скрыню атопкам і ледзь не завыў ад болю.

Трэцяя скрын[illegible] убачыў такое, што яго яшчэ болей уразіла. Замест зброі там адна на адной ляжалі аднолькавыя льняныя торбачкі, сцягнутыя ўверсе тонкімі скуранымі раменьчыкамі, а побач — зграбныя стосікі паперы. Яны дзе-нідзе перакладаліся кавалкамі старых газет, і кожны пачак аб[illegible]аўся бясколернымі суровымі ніткамі.

Апусціўшы рукі, Рабы няўцямна лыпаў вачыма з такім выглядам, быццам яго толькі што абвялі вакол пальца, жорстка ашукалі, абрабавалі дашчэнту. Яшчэ хвіліна — і прыйдзецца плюнуць, пайсці адсюль ні з чым. Але ўсё ж тое, што ў скрынях не кніжкі, як запэўніваў госць, нібы прывязала Рабога да развантробленага ім багажу. Ён у замяшанні пераміна́ўся з нагі на нагу, пакуль галаву не праняла да неверагоднасці простая, пякучая здагадка. Яму нават перахапіла, заняло дух. Сэрца абарвалася, на вочы наплылі слёзы: «Дурань я. Які дурань! У торбачках — манеты, а ў газетных пакунках — асігнацыі. Мора грошай. Маіх грошай!»

Шалеючы ад шчасця, Рабы аж захроп. Без аглядкі кінуўся ён рваць раменьчыкі на торбачках, драць ніткі з пачкаў, чакаючы, як між пальцамі пальюцца, зазвіняць бліскучыя срэбныя манеты, як зашамацяць крэдыткі з малюнкам двухгаловага арла...

З торбачак і сапраўды штосьці пасыпалася. Рабы паднёс свечку, убачыў безліч маленечкіх, з зярнятка, бліскучых шарыкаў. Ён прыглядзеўся і пераканаўся: не шарыкі, а невядомага прызначэння фігуркі. Пад ніткамі ж у пачках аказаліся аднаго памеру белыя паперкі з роўнымі, як шнур, друкаванымі радочкамі. «Няўжо ўсё дарэмна? Няўжо нічога? Але... пачакай, пачакай,— супакойваў сябе Рабы. Яго зноў ахопліваў жар,— здаецца, я пачынаю цяміць, што тут да чаго!»

У знойдзеным ён несумненна пазнаў якраз тое, што нядаўна паказваў мужыкам бацюшка Ігуменскай царквы Спаса, айцец Кірыла, калі расказваў аб небяспечных злачынцах-мяцежніках. «Гэтыя вось цацкі,— Рабы добра запомніў словы бацюшкі,— найпершыя адзнакі ўсіх паноў-бунтаўшчыкоў, якія ўзняліся супраць нашага цара, каб да старога вярнуцца і літасціва дараваную царом волю скасаваць!»

Прыгадаў Рабы і зварот Кірылы да ўсіх. Поп, спасылаючыся на мінскага губернатара, абяцаў кожнаму, кім бы той ні быў, вялікую — аж да дваццаці пяці рублёў срэбрам — узнагароду за тое, што паведамяць аб мяцежніках. А калі хто з мужыкоў вызначыцца асабліва ў гэтай святой справе, дапаможа злавіць ці высачыць ворага-інсургента, дык абавязкова атрымае яшчэ і спецыяльны бронзавы царскі медаль.

«Усё! Галоўнае зроблена. Зараз, мой божа, дай толькі ногі»,— падсумаваў Рабы, паспешліва замыкаючы свіран на цяжкую завалу...

## II. ДАНОС, ЯГО ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ

Так атрымалася, што цэлая рота ўнутранай варты з Мінскага гарнізоннага батальёна, якая ўжо другі месяц стаяла ў Ігумене, засталася з адным афіцэрам. У канцы студзеня камандзір роты, капітан Васіль Кругавых, на паляванні, арганізаваным навакольнымі багацеямі, зваліўся з каня і трапіў у шпіталь. Да жандараў дайшла пагалоска, і яны самі, як маглі, раздулі чуткі, што капітан — першая ахвяра варожых інтрыг тутэйшых дваран, якія наўмысна падстроілі калецтва рускаму афіцэру. І хоць гэтаму ні на кроплю ніхто не верыў, не паверыў нават сам губернатар, б[illegible] ўсё ж вырашана правесці следства

Між тым камандаванне ро[illegible] перайшло да зусім зялёнага паручніка Паўла Аўдзеева. Ён з маладою адкрытасцю катэгарычна лічыў, што лавіць па лясах так званых інсургентаў, якія да таго ж не пачалі дзейнічаць,— абавязак [illegible]алдат, а выключна земскай паліцыі [illegible]ндараў. Пра пазіцыю паручніка хутка даведаліся ў Мінску. Праўда, асаблівага значэння атрыманаму даносу не надалі, спісаўшы ўсё на ўзрост Аўдзеева. Але, паразважаўшы, прыслалі ў Ігумен жандарскага ротмістра Антона Калягіна (ён, дарэчы, настойліва сам сюды напрошваўся)— службіста шматвопытнага, у якога педантызм, схаваны за высакароднымі манерамі і знешнім бляскам, даходзіў часам ледзь не да вар'яцтва. Прыслалі яго, каб навёў тут належны парадак і, між іншым, данюхаўся, хто ж вінаваты ў «раненні» капітана Кругавых.

Працягам некалькі тыдняў ротмістр, не прапускаючы ніводнай акалічнасці, дэталёва і падрабязна разбіраўся з другой, неасноўнай часткай даручанага. І хоць ён на месцы пераканаўся, што нават знака «польскай мяцежнай інтрыгі» ў здарэнні з капітанам няма, але, каб патрапіць у нораў свайму жандарскаму начальству, адаслаў фельдпоштай патрэбную шэфу справаздачу.

Пасля кароткай і нязначнай сёння картачнай гульні ў гарадскога галавы, пана Вікенція Малашэвіча, Калягін разбіраў у сябе бягучыя службовыя паперы. Рабіў гэта, як звычайна, каб паставіць задачы на дзень наступны. Ротмістр мусіў канстатаваць: фактычна займацца тут няма чым. Была, праўда, у яго яшчэ адна, галоўная, звышканфідэнцыяльная місія ў Ігумене, пакуль што нічога пэўнага ў гэтым кірунку не высвятлялася, таму заставалася, стаіўшыся, чакаць. Пільна назіраць за ўсім, слухаць і чакаць.

Бяздзейнасць стамляла, нават непакоіла ротмістра. Ён шукаў, куды б прыкласціся. Перабіраў, перабіраў у галаве і тое і гэта, пакуль не ўспомніў, што настала, мабыць, самая пара ўзяцца за маладога Аўдзеева з унутранай варты. Ротмістр з усмешкай на тонкіх вуснах мякка папярэдзіў Аўдзеева, што, паводле надзейных звестак і яго ўласнага пераканання, каравулы вакол Ігумена існуюць толькі ў справаздачах. А гэта, як і кожнае невыкананне волі начальства, немінуча прывядзе да бяды непапраўнай.

— Вы, Павел Аляксандравіч, афіцэр зусім малады. Не пашкодзіла б прыслухацца да парады больш вопытнага калегі, які на службе, як кажуць, сабаку з'еў,— скончыў доўгі маналог ротмістр і паглядзеў на субяседніка, спрабуючы на ягоным твары прачытаць рэакцыю на пачутае.

А той маўчаў, спахмурнеўшы ад непрыемна-назойлівай, нават прыкрай думкі: «Няўжо я сапраўды дакаціўся да «калегі» паскуднаму, быццам пацук, жандару. Мяне, браце любы, не ўвядуць у зман ні твой салодкі голас, ні твае ласкавае абыходжанне. Бач ты, трымаецца з такою пыхаю, нібы тытулаваны гвардзеец у дамскім салоне. Ведаем вас!» Ён збіраўся праўдзіва выказаць у вочы жандару ўсё гэта. Рашуча ўстаў з крэсла і павярнуўся да цёмнага акна, каб не бачыць езуіцкага твару Калягіна.

Загаварыць Аўдзееву не даў асцярожны стук у аканіцы. Паручнік міжволна падаўся наперад да вокнаў. Але ротмістр са словамі: «Не варушыцца!» маланкава кінуўся да яго, учапіўся за рукаў мундзіра, мігам патушыў святло і рашуча пацягнуў Аўдзеева за сабою ў калідор, дзе на лавах пахрапвалі двое ардынарцаў.

—Лезці на ражон, дарагі Павел Аляксандравіч, не геройства. Не забывайце: мы ў небяспечнай мясцовасці, дзе спакой і дзяржаўны парадак пакуль што, на вялікі жаль, пад пагрозаю. Вось адчынілі б аканіцу і акурат пад самае сэрца чырвоную дзірачку атрымалі б. Няўжо раненне, падстроенае ворагамі, вашаму звышдаверліваму капітану Кругавых не пайшло ў навуку? Што вы сабе думаеце: нават ля флігеля, дзе жывуць афіцэры, каравула на пастах няма!— злосна і з'едліва кпіў ротмістр, груба расштурхоўваючы сонных салдат.

А калі тыя спалохана ўскочылі, загадаў са змяіным шыпеннем у голасе, пагрозліва трасучы перад імі кулаком:

— Праверыць, хто там! Абшукаць — і сюды. Пільна агледзець усё навокал! Даспіцеся, галубочкі, у мяне да арыштанцкіх рот!

Аўдзееў пачырванеў, збянтэжыўся і гатовы быў нават прызнаць: дасведчаны ў тутэйшых справах і службе ротмістр добра ведае, што робіць. Але праз хвіліну перад афіцэрамі з'явіўся звычайны мужык, мужык з голымі рукамі, які ніяк не нагадваў крыважэрнага фанатыка-інсургента. Ён толькі міралюбна кланяўся і спуджана азіраўся на салдат са штыкамі.

— Хто такі? Што трэба? Хто падаслаў?—насцярожана і падазрона, як на допыце, пытаў ротмістр, шкворачы вачыма затрыманага.

— Ваша сіяцельства, я Сямён Рабы, прабачце, Крупенька я, Сямён — праваслаўны ігуменскі чалавек. Маю сакрэтнае паведамленне,..— ён сціх і палез у кішэню.

Адзін з салдат, не раздумваючы, падскочыў да яго. Завіс на руцэ, сціснуўшы так, што Рабы аж зайшоўся:

— Ах! Вох!.. Пусці. На дварэ ж скрозь абмацалі, як чужую бабу. Пусці!

Ротмістр вярнуў салдата на месца. А Рабы, не вымаючы далоні з кішэні, маўчаў. Умяшаўся Аўдзееў:

— Слухаем цябе. Кажы, у чым справа?

— Мая справа занадта сакрэтная, ваша чэсць. Пры салдатах — ні мур-мур,— ледзь чутна адазваўся Рабы, беспамылкова з'арыентаваўшыся: галоўны сярод іх не прыгожы, маладзенькі афіцэрык з пяшчотным, нібы ў дзяўчыны, аблічам, а той грозны бамбіза, якога ён адразу залічыў у «сіяцельствы».

— Эй вы, адзін — у калідор, другі — пад нашы вокны. Службу несці пільна!— кінуў ротмістр.

Рабы тым часам дастаў, сціскаючы ў кулаку, брудную анучку і працягнуў афіцэрам:

— Вось, паны-дабрадзеі, маё паведамленне. Глядзіце!

Ротмістр асцярожна наблізіўся. Не адважваючыся дакрануцца да невядомай, хто ведае якой, рэчы, ён шэптам нерашуча прапанаваў:

— Кладзі на стол і сам разгарні.

А калі на белым абрусе заблішчэлі металічныя макаўкі і не выклікала сумненняў, што гэта друкарскі шрыфт, ротмістр, пырскаючы ад хвалявання слінаю, ухапіў Рабога за грудзі і пранізліва закрычаў:

— Дзе? Дзе ты знайшоў гэта? Хутчэй!

— Ну не, ваша сіяцельства,— спакойна і самазадаволена ўсміхнуўся Рабы,— хоць у халодную садзіце, хоць бізунамі мяжжульце, але ні слова болей. Спачатку грошы і царскі медаль, як абяцана, каб усё па чэсці. Бачу, вас цікавіць маё паведамленне. Вось, атрымайце, яшчэ адно,— і Рабы выцягнуў з-за пазухі белую паперку, з тых, што знайшоў у трэцяй скрыні.

— Што ты вярзеш, мужык? Кім абяцана? Ты, мабыць, п'яны?— напусціўся ротмістр, вырваў у Рабога паперку, прачытаў: «Паўстанская інструкцыя».

Ногі ў жандара падкасіліся, ён цяжка бухнуўся ў крэсла. З шумам выдыхнуў з грудзей паветра і сказаў узрушана: «Ого!» Затым, авалодаўшы сабою, звярнуўся да Рабога:

— Дзе знайшоў?!

(Працяг будзе).

*ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ*

# ЧАГО Ж ЧАКАЦЬ АД ЯГО ЗАЎТРА?

Калі мяне папрасілі напісаць пра яго, адразу ж згадзіўся. Падалося, што ніякіх складанасцей не ўзнікне, бо ведаю яго вельмі добра: знаёмыя пятнаццаць гадоў, калісьці разам вучыліся і цяпер нярэдка сустракаемся. Жывём мы ў новым мікрараёне, і, бывае, выходзім увечары на шпацыраванне. Аднак лёгкасць задання, якая спакусіла мяне, аказалася ўяўнай.

Тады я прыдумаў гульню, дзе ўзяў сабе ролю журналіста, і папрасіў яго адказаць на некалькі пытанняў.

— А дзе твой магнітафон, калі ты журналіст? — пачуў я ў адказ.

— Па-першае, не ты, а вы, калі ўмовы гульні прыняты, а па-другое, дома я ўсё пазаношу ў свой блакнот. І што гэта, я адзін, а вы ўдвух? Ці ўтрох?

Тут я мушу даць тлумачэнне: гутарыць мне давялося адначасова з мастаком і тэлежурналістам Уладзімірам Сцепаненкам, а таксама з паэтам і празаікам Уладзімірам Сцяпанам. Думаю, што гэтае тлумачэнне ў пэўнай ступені можа гучаць як першае пытанне, пытанне пра псеўданім.

— Пакуль я займаўся толькі выяўленчым мастацтвам, патрэбы ў псеўданіме не было. Але калі пачалі з'яўляцца першыя радкі, першыя спробы вершаў, узнікла пытанне: «Хто гэта напісаў?» Здавалася, што радкі гэта не мае, але запісаныя маёй рукою. Узнікла жаданне адасобіць мастака ад паэта, каб памірыць іх. Псеўданімам стала трансфармаванае прозвішча.

І яшчэ да пытання пра псеўданім. Існуе пэўная літаратурна-культурная традыцыя, існуе здаўна, як на Усходзе так і ў заходніх краінах. Ды што казаць, варта прыгадаць хаця б нашых класікаў — Янку Купалу і Якуба Коласа. Так што тут я цалкам традыцыйны.

— А ў чым вы бачыце сваю нетрадыцыйнасць? Можа, у пошуках формы выказвання? Вы скончылі аддзяленне станковага жывапісу, а працуеце пераважна ў графіцы, пачыналі як паэт, а цяпер аддаяце паравагу прозе. Ці няма ў гэтым супярэчнасці?

— Аніякай. Чалавеку ўласціва імкненне выявіцца як мага паўней. Самому сабе я спрабаваў растлумачыць сваё «непастаянства», але не змог даць сур'ёзнага адказу.

— А калі несур'ёзна?

— Пісаў карціны і адчуў, што жывапіс — гэта метафара. Паспрабаваў запісваць метафары словамі. Атрымаліся «радкі». Гэта мяне зацікавіла. Пачаў пісаць вершы, тым болей, што гэта танней — дастаткова алоўка і аркуша паперы...

— Калі ж напісалася апошняя карціна?

— Апошняя? Яна яшчэ не напісана і калі будзе створана, не ведаю. Можа нават заўтра і пачну яе — палатно загрунтавана і чакае свайго часу. Магу сказаць і назву будучай карціны. Але існуе яна не як цэтлік на раме, а як трохрадкоўе-хайку:

**Трамвай празвінеў.**
**І зноў вакол цішыня...**
**Слухаю вецер.**

Але, спадзяюся, і яна не стане апошняй: паэзія і жывапіс ідуць у мяне поруч. Калі ж я заўважыў, што графічна вершы можна запісваць як прозу, то крыху збянтэжыўся і зараз нават не хацеў бы праводзіць між імі рэзка акрэсленую мяжу.

— А пра што вашы апавяданні?

— Некалі я хацеў напісаць фарбамі гук і пах, тое, што зрабіць быццам бы немагчыма. У апавяданнях жа я спрабую напісаць колер, святло, цішыню. Іх змест дыктуюць мае ўспаміны. І пішу я толькі пра тое, што добра ведаю, пра тое, што асабіста бачыў ці адчуваў. Героі маіх твораў найперш маладыя гараджане, якіх хвалююць праблемы часу, якія шукаюць сваё месца ў жыцці. Можа таму мяне адносяць да «гарадской» плыні ў сучаснай маладой прозе. Але творы заўсёды шырэй, чым тое, што пра іх гаворыцца.



— Валодзя, а што вы любіце?

— Больш за ўсё — яблыкі з дзедавага саду. Даспадобы мне рабіць ілюстрацыі да апавяданняў маіх сяброў. Вельмі люблю Мінск, яго праспекты, вуліцы, паркі і дворы. Люблю сядзець у скверы і рабіць запісы ў блакноце. Люблю хадзіць па горадзе з сябрамі — пара года і час сутак значэння не маюць. Можа, менавіта таму абраў колісь «Мінскія краявіды» тэмай дыпломнай працы ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Мінулі гады, і з цяжкасцю пазнаю мясціны, што некалі напісаў: аблічча горада мяняецца вельмі хутка. Але на маіх палотнах яно застаецца нязменным, і ў гэтым адна з прывабнасцей жывапісу.

— Я ведаю, што вы прыхільна ставіцеся і да мастацтва архітэктуры.

— Так. У мяне напісаны цыкл «архітэктурных» вершаў.

Можа, вы прачыталі б адзін з іх?

Калі ласка...

**Сярэднявечча апошні ўздых.**
**Застылы каменны крык.**
**Стралой арбалета**
**Прарэзаў паветра**
**Вежы гатычнай штых.**

**[illegible]ацятай струною**
**Дакорам спакою**
**Гатычная вежа звініць над зямлёю,**
**І цяжкія гукі медных званоў**
**Ірвуцца з абдымкаў каменных муроў.**

**У трубах арганаў паветра дрыжыць,**
**Высока ў блакіце гараць вітражы,**
**І чуецца ў звоне**
**Магутны харал,**
**І чырванню плавіцца ружы карал.**

**Звіні над зямлёю, каб людзі пачулі**
**Пра тыя стагоддзі, якія мінулі.**
**Звіні пра стагоддзі,**
**Гатычная вежа,**
**Якія ідуць у блакітным бязмежжы!**

**Гатычная вежа, гатычная вежа,**
**Адвечны твой рух у блакітным бязмежжы.**

— Дзякуй, Валодзя. Скажыце, дапамагаюць вам мастакоўская адукацыя, пісьменніцкі вопыт у рабоце на тэлебачанні?

— Як хірургу або краўцу веданне анатоміі.

— І ўсё ж, чаму цяпер менавіта тэлебачанне?

— Калі шчыра, дык магло быць і кіно, і тэатр. З'явілася магчымасць выпрабаваць сябе як тележурналіста — і вось я рэдактар у рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання.

— Не цяжка?

— Зараз прызвычаіўся. А напачатку толькі ведаў, што будзе складана, але не ўяўляў, што настолькі. Тэлебачанне — гэта мастацтва, але таксама і выворчы працэс са строгім графікам, праграмай, планам. Спалучаць вытворчасць з мастацтвам нялёгка.

У набытку Уладзіміра Сцяпана — шматлікія публікацыі ў рэспубліканскім друку, кніга паэзіі «Ліст», дзве п'есы для народнага лялечнага тэатра «Батлейка» (у саавтарстве з А. Глобусам), падрыхтавана да друку кніга прозы пад назвай «Дыяганаль».

А Уладзімір Сцепаненка ўдзельнічаў у васьмі рэспубліканскіх выстаўках, афарміў пяць кніжак, актыўна працуе ў часопіснай графіцы. Ён жа — рэдактар штомесячнага тэлеальманаха «Літаратурная Беларусь», які мае шырокі грамадскі рэзананс, адзін з аўтараў шэрагу тэлесцэнарыяў і тэлепастановак, прысвечаных творчасці М. Багдановіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, А. Камю, П. Лагерквіста.

Чаго ж чакаць ад майго субяседніка заўтра?

Асабіста я не здзіўлюся, калі даведаюся, што ён заняўся скульптурай або стварае неардынарны архітэктурны праект, што спрабуе сябе ў якасці кінаакцёра або фотамастака.

**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ.**



**НА ЗДЫМКАХ: Уладзімір СЦЕПАНЕНКА; яго ілюстрацыя да апавядання А. Глобуса «Паміж папярэднім і наступным» у часопісе «Маладосць».**

**АРТЫСТКА СА СВАІМ СВЕТАМ, ПРАГРАМАЙ, ПЕРАКАНАННЯМІ**

# НАРОДНЫЯ ПЕСНІ Ў СТЫЛІ «МАДЭРН»

Яна выходзіць на эстраду, імклівая, прывабная, у строгай цёмнай сукенцы, з гітарай у руках. Моцныя нервовыя пальцы бяруць першыя акорды. Гучыць песня. Гэта можа быць руская народная ці публіцыстычная сучасная, гарадская балада ці вясёлая частушка, старадаўні раманс. І заўсёды, на любым канцэрце, у любой аўдыторыі, гэта будзе сумленнае, шчырае, прасякнутае ўнутраным душэўным тэмпераментам выступленне.

Імя Жанны Бічэўскай добра вядомае. У яе выйшла некалькі дыскаў-гігантаў, яе голас гучыць па радыё і па тэлебачанні. Жанна — самабытная і своеасаблівая з'ява савецкай эстрады, спявачка, чыя творчасць прыцягвае ўвагу сваёй глыбінёй, сілай, самастойнасцю мыслення.

Упершыню аб ёй загаварылі ў пачатку 70-х гадоў. Бічэўская выконвала рускія народныя песні крыху нязвыкла, нетрадыцыйна, нібыта прыйшлі яны з дня сённяшняга. Усім вядомую «Матухну» спявала яна пад акампанемент гітары, строга, не спрабуючы ўпрыгожыць мелодыю, удзяляючы вялікую ўвагу тэксту, яго зместу, і было ў выкананні столькі глыбіні, што нечаканым сумам [illegible]зяла ад гэтай шмат разоў [illegible]гай песні. Стала ясна: у эстраду прыйшла не спявачка, а асоба, артыстка са сваім светам, праграмай, перакананнямі.

Жанна Бічэўская нарадзілася ў [illegible]скве, скончыла музычну[illegible]колу па класу гітары, паступіла ў Дзяржаўнае вучылішча цыркавога і эстраднага майстэрства, дзе, удасканальваючыся ў ігры на гітары, пачала вучыцца спевам. З таго часу гітара і песні неразрыўныя ў яе творчым жыцці. І не было ў яе сумненняў, што спяваць. Спяваць народныя песні, але па-свойму. Яе прыцягваюць да іх прыгажосць, мудрасць, драматызм. Але, пакінуўшы ўнутраны лад старадаўняй песні, Жанна хоча выконваць яе па-сучаснаму.

— Стараючыся зняць са старадаўняй песні некаторы налёт музейнасці, заштампаванасці, — гаворыць Жанна, — спрабую вярнуць яе слухачам больш набліжанай да сённяшняга дня, больш сугучнай нам з вамі, але натуральна, не разбураючы яе каранёў. Практычна кожны год езджу па вёсках, сёлах за песнямі, збіраю, запісваю, але выконваю не ўсе, а толькі тыя, што асабліва блізкія мне...

З Украіны Жанна прывезла «Сон Сцяпана Разіна», з Дона — пятнаццаць варыянтаў «Данской балады» і «Казацкую прытчу», з Карэліі — «Кветачка мая». Ёсць у яе рэпертуары мелодыі, запазычаныя з рускага фальклору, з рэпертуару іншых спевакоў. Гэта сумныя, працяжныя салдацкія песні «Пра што задумаўся, служывы», «Чорны воран», вядомая гарадская балада «Афарбаваўся месяц барвай», вясёлая курская карагодная «Камарыкі». Выконвае спявачка і старадаўнія рамансы, песні Булата Акуджавы, які аказаў на яе немалы ўплыў. Апошнім часам Жанна Бічэўская адкрывае для сябе страсны, драматычны свет гарадской балады.

— У гарадской баладзе больш прасторы для выказвання пачуццяў, эмоцый, яна бліжэй майму стылю. Я ж спяваю народныя песні хутчэй у стылі мадэрн, а не ў стылі чыстага фальклору. Балада больш дэмакратычная, больш блізкая слухачам, чым руская бытавая народная песня...

Адкрыццём стала для слухачоў выкананне спявачкай усім вядомай, запетай балады «Шумеў чарот». Як рэстаўратар вызваляе жывапіснае палатно ад позніх напластаванняў, адкрываючы першапачатковыя фарбы, так і Жанна адкрыла яе прыгажосць. Звычайная гісторыя «адной заказанай пары» ў выкананні Бічэўскай напоўнена драматызмам, глыбінёй.

На сцэне Бічэўская сабраная, добразычлівая. Выдатнае валоданне гітарай, уменне спяваць, адчуваць разам з інструментам надаюць яе артыстычнаму вобліку своеасаблівасць. Яе адкрытасць дапамагае хутка ўстанавіць кантакт з глядзельнай залай, стварае асаблівую атмасферу канцэрта-роздуму. Яна ўпэўнена, што мастацтва — не забава, а работа і артыста, і аўдыторыі, работа творчая.

— Я ўдзячна сваім слухачам, хаця яны часам і бываюць жорсткія. Удзячна за тое, што не даруюць фальшу, паўпраўды, ляноты. Артыст павінен аддаць усё прысутным у глядзельнай зале сёння, цяпер, усім тым, хто прыйшоў на канцэрт, нічога не ўтойваючы і не пакідаючы пра запас. Тады прыйдзе і падзяка, і прызнанне, і любоў.

Жанна многа ездзіць з канцэртамі па краіне, з поспехам праходзяць яе выступленні і за мяжой, асабліва любяць майстэрства спявачкі ў Польшчы і Францыі, дзе ёй неаднаразова даводзілася гастраліраваць, а ў Парыжы, у зале «Алімпія», ёй прапанавана цяпер выступаць кожны год. Жанна Бічэўская — член Савецкага камітэта абароны міру, удзельнік мітынгаў і маніфестацый, накіраваных на прадухіленне ядзернай вайны.

— Праблема міру — праблема кожнага з нас, — гаворыць Жанна Бічэўская.

Яна любіць свой дом, кветкі, жывёл. Яна многа працуе і не дапускае паслабленняў, раскіданасці ні ў чым. Яна выходзіць на эстраду, насустрач прыціхлай зале імклівая, артыстычная, прывабная, у строгай цёмнай сукенцы, з гітарай у руках. Моцныя нервовыя пальцы бяруць першыя акорды, і гучыць песня...

**Уладзімір КАТЫХОЎ.**

## *НА ГАСТРОЛІ Ў ЮГАСЛАВІЮ*

Народны ансамбль танца «Завіруха» Пружанскага раённага Дома культуры атрымаў запрашэнне на гастролі ў Югаславію.

Гэты калектыў, створаны 15 гадоў назад, добра вядомы ў рэспубліцы і за яе межамі. Самадзейныя артысты двойчы выступалі на ВДНГ СССР у Маскве, на Украіне, перад працаўнікамі Брэстчыны. Ансамбль прымаў удзел у міжнародных фестывалях фальклорнага мастацтва ў Балгарыі і Чэхаславакіі. Высока ацанілі майстэрства пружанскіх танцораў знаўцы народнай творчасці Польшчы. У рэпертуары калектыву беларускія народныя танцы, абрадавыя кампазіцыі, танцы народаў СССР.

# ПАСЛЯ АЛІМПІЯДЫ

У канадскім горадзе Калгары завяршыліся XV зімовыя Алімпійскія гульні. Шаснаццаць дзён лыжнікі і біятланісты, фігурысты і саначнікі, канькабежцы і хакеісты, гарналыжнікі і скакуны з трампліна, двяаборцы і бабслеісты вялі бескампрамісную барацьбу за медалі. 1 789 спартсменаў з 57 краін усіх пяці кантынентаў разыгралі 46 камплектаў узнагарод.

Сярод удзельнікаў Алімпіяды былі і тыя, хто толькі-толькі авалодаў майстэрствам зімовых відаў спорту, і «зоркі» першай велічыні. Да апошніх аднясём фінскага скакуна з трампліна Маці Нюкянена, канькабежку з Галандыі Івон ван Геніп.

Вялікі поспех выпаў на долю каманды Савецкага Саюза. Ніколі яшчэ і нікому ў гісторыі зімовых Алімпіяд не ўдавалася заваяваць столькі медалёў: 11 залатых, 9 сярэбраных і 9 бронзавых. Каманда ГДР, якая чатыры гады назад выйграла Гульні ў Сараеве, на гэты раз у неафіцыйным заліку аказалася на другім месцы. А спартсмены ЗША, якія спрабавалі канкурыраваць з намі і ў Сараеве, і ў Лэйк-Плэсідзе, у Калгары засталіся далёка-далёка ззаду. Для параўнання скажам, што амерыканцы атрымалі ўсяго 6 узнагарод.

Як адзначаць потым каментатары, з самага пачатку спаборніцтваў выступленне савецкіх спартсменаў стала «дамінуючым». Асабліва вызначыліся нашы лыжніцы. Імі заваявана восем медалёў. Побач з вопытнымі спартсменкамі Тамарай Ціханавай, Раісай Смятанінай, Анфісай Разцовай, чэмпіёнкамі Алімпіяды сталі дэбютанткі: Віда Венцэне, Святлана Нагейкіна, Ніна Гаўрылюк. Сенсацыяй Гульняў было ўдалае выступленне бабслеістаў Яніса Кіпурса і Уладзіміра Казлова. Да стартаў нават ніхто не браў іх у разлік—бабслей у Савецкім Саюзе развіты слаба.

Чакалася, што галоўную барацьбу за алімпійскія медалі ў Калгары павядуць хакеісты СССР, Канады, Швецыі, Чэхаславакіі. Але практычна ніхто з сапернікаў (калі не лічыць апошні матч са спартсменамі Фінляндыі, які ўжо нічога не мяняў) не аказаў нашай зборнай сур'ёзнага супраціўлення. Чэмпіёнскі тытул хакеісты Савецкага Саюза заваявалі датэрмінова.

Не падвялі і біятланісты, якія ўнеслі ў скарбонку нашай каманды чатыры медалі, у тым ліку і «традыцыйны» залаты—у эстафеце. Наогул у эстафеце савецкая каманда першынствавала на некалькіх Алімпіядах запар.

Але не абышлося на Алімпіядзе для нашай каманды і без засмучэнняў. Скажам, чакалася, што больш узнагарод дастанецца канькабежцам. Аднак у жанчын наогул няма ніводнага медаля, хаця вынікаў яны дамагліся быццам бы нядрэнных. На Гульнях жа, як паказалі спаборніцтвы, каб перамагаць, трэба паказваць хуткасці, вышэйшыя за рэкорды свету. А іх, рэкордаў, у Калгары канькабежцы ўстанавілі каля дваццаці!

Не могуць зад ьняць нас таксама выні. гарналыжнікаў і скакуноў з трампліна. Але ў цэлым савецкія алімпійцы зарэкамендавалі сябе добра.

Аб некаторых выніках выступленняў наш спартсменаў у Калгарь. аварылася на сустрэчы савецкіх журналістаў, якія асвятлялі Алімпійскія гульні, з кіраўніком дэлегацыі СССР М. Грамавым. Ён, у прыватнасці, адзначыў, што поспехам спартсменаў садзейнічалі добразычлівыя адносіны канадцаў, жыхароў Калгары, да нашай дэлегацыі. Такія спрыяльныя абставіны на Алімпійскіх гульнях, несумненна, звязаны з агульным паляпшэннем міжнароднага клімату, з многімі мірнымі ініцыятывамі, з якімі ў апошні час выступіла Савецкая дзяржава.

Перад тым, як нашы спартсмены вярнуліся на Радзіму, да іх звярнуўся Джордж Каф, мэр горада Спрус-Гроў (Канада): «Спадзяюся, — сказаў ён, — што савецкія спартсмены пераканаліся ў гасціннасці майго народа. Мы, канадцы, у сваю чаргу, удзячныя савецкім спартсменам за ўсё, што яны зрабілі для поспеху Алімпіяды-88. На мой погляд, гэтыя Гульні былі той падзеяй, да якой усе народы, усе людзі планеты ставяцца з аднолькавай надзеяй і любоўю. Вашы спартсмены тут не толькі перамагалі: чэмпіёны наведвалі школы, адгукаліся на ўсе запрашэнні, каб даставіць канадцам шчасце зносін з прадстаўнікамі СССР, да якіх раней на нашым кантыненце ставіліся не заўсёды добра».

Алімпійскі рух заўжды быў факелам дружбы і ўзаемаразумення паміж народамі. Гульні ў Калгары ўпісалі ў яго яшчэ адну яркую старонку. А савецкія спартсмены ўнеслі дастойны ўклад ва ўмацаванне міжнароднага алімпійскага руху, ва ўмацаванне міру на планеце.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ ГОРАДУ

*Муз. С. БЕЛЬЦЮКОВА*

*Сл. Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮКА*




. орад мой — плошчы і скверы
Пад святлом Зоркі Венеры.
Горад мой пад святлом
Адпачне чыстым сном.

Прыпеў:
як дзеці, засынаюць аркі і калоны,
. як дзеці, засынаюць вокны і балконы,
Засынаюць, засынаюць шыльды і вітрыны,
Заціхае, заціхае горад мой адзіны.
І толькі ранак,
Цудоўны ранак
Парушыць гэты сон. — 2 разы

Позні час — хочацца верыць:
Не засне Зорка Венера,
А засне чыстым сном
Кожны двор, кожны дом.

Прыпеў.
Хай заўжды будзе ў кватэры
Гасцяваць Зорка Венера,
Хай заўжды чыстым сном
Горад спіць за акном.

Прыпеў.



Такія забаўныя фігуркі з гліны робіць студэнтка Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Ірына Ліннік. Свае «творы» яна, як правіла, раздорвае шматлікім сябрам і знаёмым, упрыгожвае імі кватэру. Наогул Ірына не кераміст. Яе будучая спецыяльнасць — мастак-афарміцель, дызайнер, як прынята цяпер гаварыць. А гліна — яе захапленне яшчэ з дзяцінства. Першы кавалак гліны ёй прынеслі бацькі — геолагі. І навучылі з ёю працаваць. У вольны час дзяўчына любіць паэксперыментаваць з гэтым матэрыялам. Падатлівая ў руках Ірыны гліна ператвараецца ў казачныя істоты, у звяроў і птушак. Не толькі вынік, але і сам працэс работы прыносіць дзяўчыне радасць і асалоду.

НА ЗДЫМКАХ: Ірына ЛІННІК і яе работы.

Фота І. КУРМАНОВІЧА.





## ВЯРТАННЕ АЛЕНЯЎ

Яшчэ імгненне назад лясная паляна была пустой. І раптам, быццам з-пад зямлі, з'явіўся алень. Ледзь прыметна завагалася сасновае галлё, і побач застыла самка з аляняткам. Доўга любаваўся гэтым сямействам.

Як растлумачыў ляснічы Клюкаўскага лясніцтва Валянцін Гірдзюк, алені тут добра прыжыліся.

Яшчэ ў 60-я гады з Белавежскай пушчы прывезлі 25 маладых аленяў і выпусцілі іх у Бабікавіцкай паляўнічай гаспадарцы Аршанскага раёна. Ішлі гады, і колькасць навасёлаў павялічвалася. Многія алені мянялі месца жыхарства. Асабліва спадабалася ім багатая паша ў лясах Клюкаўскай паляўнічай дачы. Паводле падлікаў спецыялістаў, тут цяпер каля ста аленяў, якія знаходзяцца пад аховай дзяржавы і паляўнічых.

Спецыялісты паляўнічай справы лічаць, што алені ў бліжэйшыя гады расселяцца ў лясных масівах Аршаншчыны, а таксама ў суседніх Сенненскім, Лёзненскім і Дубровенскім раёнах. Словам, алені зноў вяртаюцца ў нашы лясы.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 437